*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 25(359)** **1 ЛІПЕНЯ 1998 г.**



23 чэрвеня
намесніку Старшыні
Беларускага Народнага Фронта
**Юрасю Хадыку**
споўнілася **60** гадоў.
СакратарыятТБМ сардэчна
віншуе мужнага змагара за
краіну і мову і зычыць доўгіх
гадоў і адвечнай непахіснасці

**Пажаданні**

Гады імчаць нібыта хуткасны цягнік
І бег іх ні на хвілю не сціхае,
Жыццё людзей чамусці на зямлі,
Нібы імгненне, хутка пралятае.

Вось гэтае імгненне затрымаць,
Я ад усёй душы вам пажадаю,
Жыць сто гадоў, смяцца і кахаць,
І быць апораю Радзімы краю.

***В. Бігеза, дацэнт каф. бібліяграфіі і дакументазнаўства.***

## Вандроўка ў Гародню

20 чэрвеня 1998 года прадстаўнікі дэмакратычных партый, рухаў і іншых грамадскіх арганізацый Ленінскага раёна г.Менска (сябры ТБМ імя Ф.Скарыны, БНФ, АГП, БСДГ, партыі "Здаровы сэнс", Хартыя-97) зрабілі чарговую экскурсію у старажытную Гародню. Яны падрабязна агледзелі старажытную Каложскую царкву, Брыгіцкі касцёл і кляштар, інтэр'еры фарнага (езуіцкага) касцёла, музейную экспазіцыю Старога і Новага замкаў.

Кіраўніцтва вышэйзгаданых дэмакратычных грамадскіх арганізацый з Менска правяла ў Гродні цікавую сустрэчу з кіраўніцтвам каардыняныйнага камітэта "Гарадзенская ініцыятыва" начале з сябрам Прэзідыума ВС 13 скліканння, дэпутатам Гарадзенскага абласнога савета Сямёнам Домашам. Прайшоў цікавы абмен думкамі аб рэгіянальным супрацоўніцтве.

Па дарозе назад удзельнікі экскурсіі завіталі ў Ліду, да муроў старажытнага Лідскага замка XIУ ст. Таксама адбылося спатканне з рэдактарам газеты "Наша слова" Станіславам Суднікам. Больш падрабязнае інфармацыя аб гэтай цікавай вандроўцы будзе змешчана ў бліжэйшых нумарах "Нашага слова".

***Алег Трусаў.***
***Менск 24.06.1998г.***

## Чарговае распяцце беларускай мовы

25 і 26 чэрвеня ў Менску адбывалася беспрэцэдэнтная акцыя - з сядзібы па Румянцава- 13 высялялі Таварыства беларускай мовы. Кіравалі аперацыяй судовы выканаўца Менскага абласнога гаспадарчага суда Уладзімір Скурат, юрыст ЖРЭА Партызанскага раёна Аляксандр Кучук і старшы ўчастковы інспектар Віктар Чарнабаеў.

Высяленне адбылося не гледзячы на тое, што рашэнне суда было своечасова абскарджана. Разгляд скаргі яшчэ не адбыўся. Не гледзячы на тое, што старшыня суда Раман Маркоўскі быў у курсе справы са скаргай і мог прыпыніць на два месяцы правядзенне высялення. Не гледзячы на тое, што 23 чэрвеня адбылося паседжанне камісіі Менскага гарвыканкама, якая пастанавіла прымяніць для ТБМ ільготы і арэндная плата замест 10 долараў за кв. метр стала ўсяго 1 долар. Нічога не было ўлічана. Відаць, некаму вельмі карцела як найхутчэй давяршыць разгром такога жывучага ТБМ.

"Распні, распні", -- паўтара сутак вісела ў паветры пакуль грузчыкі выцягвалі з памяшканняў і грузілі ў трактарны прычэп 40 тысяч кніг, а таксама мэблю ды іншую маёмасць. Уся маёмасць ТБМ была звалена на склад таго ж ЖРЭА.

Вось вам , шаноўныя беларусы, і ўся дзяржаўнасць вашай мовы, і ўсё права, і ўсе законы. Адзін трактар, тры грузчыкі і па ўсім Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

## АДПАЧЫНАК НЕ ПРАДУГЛЕДЖАНЫ

Нягледзячы на тое, што грамадская і палітычная дзейнасць у час летніх адпачынкаў жыхароў сталіцы апускаецца да нулявога ўзроўню, пікет, які 22 чэрвеня ладзіла, каля "Чэрвеньскага рынка", Свіслацкая Рада БНФ "Адраджэньне" Ленінскага раёна г.Менска, у абарону беларускай мовы, выклікаў вялікую цікавасць жыхароў раёна. Дазволены Менгарвыканкамам пікет праходзіў пад дэвізам: **"Беларуская мова — дар Божы. Зберажэм мову — зберажэм нацыю".**

Бел-чырвона-белы сцяг БНФ прыцягваў увагу, шматлікіх у гэты час, пасажыраў транспарту і пешаходаў. Пранікнёныя словы на лозунгах:

**"Як грэх не любіць маці**
**роднуюю —**
**Ты ж яе крывінка і душа,**
**Яе радасць і надзея,**
**Сляза ў вачах і песня ў сэрцы,**
**Так грэх не любіць**
**родную мову:**
**Яна сон і святло тваё,**
**Сіла і шчасце,**
**Бо ў ёй і сонца, і жыццё,**
**І ты, і Бог і увесь сусвет".**

*Анатоль Кудравец.*

***"На Беларусі няма ніводнай ВНУ з выкладаннем усіх прадметаў на беларускай мове."***

**"Браце родны Беларус!**
**Наматай сабе на вус:**
**Беларусь адна на свеце,**
**Ці пачуеш яшчэ недзе**
**Голас мовы запаветнай,**
**Што з даўна была шляхетнай?**
**Як для верша трэба слова,**
**Так народу трэба мова ! ..."**

*Алесь Ветах.*

***"Беларусы ! Давайце ўсёй сям'ёю пераадолеем сваю прадвечную пакорлівасць, рахманасць і даўні страх перад "сильными мира сего". Нам няма каго і няма чаго баяцца. Мы — на сваёй зямлі, пад сваім небам, Нам трэба выжыць, каб святая справа не загінула.***

***Жыве Беларусь !***

***Дык абудзіся ж Беларуская сэрца, не маўчы, не маўчы, не маўчы!"*** *Сяргей Законнікаў.*

**"Матуліну ведаеце мову,**
**Бо Вы — Беларускі народ.**
**Шануйце Купалава Слова,**
**Любіце адвечны свой род"!**

*Станіслаў Хахлоў.*

Заклікалі пасажыраў сыходзіць на прыпынку "Чэрвеньскі Рынак" і ўступаць у дыялог і спрэчкі з пікітоўшчыкамі. Абыякавых праходжых амаль не было. Той, хто на падпітку і сталага ўзросту падтрымлівалі русіфікацыю і прэзідэнта. Большасць моладзі і інтэлігенцыя абураліся на прэзідэнта, яго стаўленне да беларускай мовы, да патрэб насельніцтва.

Амаль кожны з праходжых атрымліваў газету "Рабочы" альбо ўлётку.

Разыходзіліся пікетоўшчыкі ў добрым настроі, з аптымізмамі верай, што беларуская мова хутка звонкай песняй загучыць у кожным кутку, кожнай ўстанове, кожнай школе ў кожным дзіцячым садку бо жыве вольная і незалежная Беларусь.

Сябры Свіслацкай Рады БНФ вельмі ўдзячны міліцыянтам, якія забяспечвалі парадак пры пікетаванні.

***Сябра ТБМ Мікола Суслаў.***

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

Што такое "агульнапрынятыя нормы беларускае мовы? Што такое беларуская мова? Гэта ж не толькі мова Беларускагна тэлебачання. Гэта і старабеларуская мова, і дыялектная мова, і мястачковае міждыялектнае койнэ , і ўрэшце так званая трасянка.

**Вінцук Вячорка**
**Наша Ніва № 11 15.05.98г.**

* * *

*Каб надаць канферэнцыі жывасці, я задаў правакацыйнае пытанне кіраўніку беларускай дэлегацыі спадару Касцяну, папрасіўшы па-беларуску расказаць пра цяперашні стан беларускай мовы ў незалежнай Беларусі. Калі не па-беларуску, дык не трэба, папярэдзіў я. І да гонару спадара Касцяна, ён на цудоўнай беларускай мове адказаў, што калі б я не швэндаўся па эміграцыях, а прыехаў у Менск і прыйшоў бы ў парламент, дык мог бы пачуць, што ён спадар Касцян, выступае на паседжаннях толькі па-беларуску. Што ж, праверыць гэта я пакідаю нашым слухачам. Адно радуе ўсе яны, як выглядае, могуць выдатна гаварыць па-беларуску. Толькі дай каманду.*

***Сяргей Шупа.***
***Наша Ніва № 11 15.05.98г.***

* * *

Наш ліцэй — адзіная ў Беларусі навучальная ўстанова перадуніверсітэцкага тыпу, дзе ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску на высокім еўрапейскім узроўні.

*З заявы навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя.*
**ЛіМ 12.06.98г.**

* * *

*Задача нацыянальнай дзяржавы — стварыць аптымальныя ўмовы для самарэалізацыі народа ў самабытнай мове і культуры ў цэлым, стварыць сваю непаўторную грань рэгіянальнай і ўніверсальнай цывілізацыі.*

***Уладзімір Конан.***
***Лім 12.06.98г.***

* * *

. . . няхай ўсе гэтыя нацыяналісты, БНФ, ТБМ і іншыя пісьменнікі - дэмакраты змагаюцца за Беларусь пад савецкай сімволікай, пад якой Беларусь ужо была аднойчы зьнішчаная, няхай пішуць такім правапісам, якім пісаліся расстрэлы ў Курапатах.

**"Мёртвы хапае жывога"**
**Сяргей Дубавец**
**Наша Ніва № 11 15.06.98г.**

* * *

*Шаноўны Васіль Іванавіч (Стражаў — міністр адукацыі Я.П.) Не бярыце на сябе ролю аднаго з пахавальнікаў беларускай мовы. Давайце разам з усімі тымі, каго хвалюе лёс беларускай мовы, беларускай нацыі, падумаем над тым, што можна і трэба зрабіць у гэтай непростай сітуацыі па выратаванню беларускай мовы.*

***Іосіф Навумчык***
***Народная воля 20.06.98г.***

* * *

І калі самай адметнай прыкметай нацыяналізму з'яўляецца павага да ўласных каранёў, моўнай культуры, дык паспрыяй ім, Божа, гэтым нацыяналістам, пазбаў ад дыскрымінацыі ў межах уласнае дзяржавы, дай сілы захаваць сваё, не патрабуючы чужога ...

**Яўген Рагін**
**ЛіМ 19.06.98г.**

